# КРЫНІЦА

№2 (26) ЛЮТЫ 2012 www.bchd.info





# Рашэнне Нацыянальнай Рады Партыі БХД

## Асноўнай задачай палітычнай кампаніі 2012 году з’яўляецца дэлегітымізацыя рэжыму і ўзмацненне падтрымкі БХД сярод насельніцтва Беларусі і міжнароднай супольнасці.

У мэтах выканання рашэнняў IV З’езда Партыі БХД пастанаўляем:

1. Да 15.02 абмеркаваць супольны план з нацыянальнай і рэгіянальнымі кааліцыямі дэмакратычных сіл і супольна перадаць патрабаванні ў органы кіравання аб вызваленні і рэабілітацыі ўсіх палітычных вязняў, змены выбарчага заканадаўства, рэгістрацыі палітычных партый і грамадскіх арганізацый, якім незаконна было адмоўлена ў рэгістрацыі, доступе да дзяржаўных СМІ. На выкананне нашых патрабаванняў мы даем тэрмін да 23.03.2012 г.;
2. Да 1.02 сфармуляваць канцэпцыю стварэння незалежнай заканадаўчай альтэрнатывы – Усебеларускага Народнага З’езда і прапанаваць яе іншым дэмакратычным сілам. Прапанаваць дэмакратычным сілам дату Усебеларускага Народнага З’езда – 23.06.2012 г.;
3. Рэгіянальным кіраўнікам да 15.02 узгадніць кампаніі інфармавання і назірання з партнёрамі на рэгіянальным узроўні, скласці супольны спіс адказных за акругі;
4. Да 24.02 распрацаваць і да 24.03 правесці інфармацыйную кампанію, накіраваную на растлумачэнне палітычнага становішча ў краіне і ідэі актыўнага байкоту. Інфармацыйныя матэрыялы павінны ўключаць:
   - нашыя патрабаванні да ўладаў;
   - інфармацыя пра БХД;
   - інфармацыя пра рэгіянальных лідараў БХД (па жаданні)
   - інфармацыя пра мясцовыя праблемы (РНД);
   - заклік далучацца да дзейнасці БХД;
5. да 01.06 падрыхтаваць не менш за 1000 назіральнікаў, здольных зафіксаваць эфектыўнасць актыўнага байкота альбо, у выпадку выканання нашых умоў, узровень сумленнасці і празрыстасці праведзянных выбараў.

Правесці наступную Нацыянальную Раду БХД 24.03. Калі нашыя умовы не будуць выкананыя – пачаць кампанію актыўнага байкоту.

*Менск, 21.01.2012*

# Віталь Рымашэўскі: наша стратэгія – ультыматум уладзе



У нас ёсць свой сцэнар і менавіта гэты сцэнар з'яўляецца аптымальным і адзіным рэальным сцэнарам, які можна рэалізаваць у нашых беларускіх умовах. Сутнасць яго ва ўльтыматуме ўладзе. У ім утрымліваецца патрабаванні аб вызваленні палітычных зняволеных і правядзенні дэмакратычных рэформаў. Хоць бы на ўзроўні падліку галасоў. Калі зняволеныя выходзяць на свабоду і нам даюць зразумець, што ў камісіі будуць уключаць прадстаўнікоў дэмакратычных партый, грамадзянскай супольнасці, тады ёсць сэнс удзельнічаць у кампаніі. Выбарамі я гэта ўсё роўна не назаву. Але ўдзельнічаць у палітычнай кампаніі тады трэба. І трэба заставацца ў ёй да дня галасавання, каб выбаршчыкі мелі магчымасць зрабіць свой выбар.

# Павал Севярынец: мы выступаем за актыўны байкот



БХД цалкам байкатуе, астатнія спрабуюць скрыжаваць вожыка з вужакай. У такой сітуацыі выйсце адно: зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні. А гэта заўсёды дрэнна сканчаецца.

На мой погляд, ёсць тры такія рэчы, якія можна зрабіць разам у кампаніі-2012.

1. Высунуць супольныя патрабаванні да рэжыму: вызваленне палітвязняў, змена выбарчага заканадаўства, спыненне рэпрэсій, рэгістрацыя партый і арганізацый, якія не зарэгістраваныя да гэтага часу. Па крайняй меры, так.
2. Арганізаваць масавае назіранне. Беларускі народ гэтыя выбары праігнаруе, і трэба дакладна ведаць, колькі людзей прыйшло і колькі не прыйшло на ўчасткі. Для гэтага неабходна назіранне, і сумесна яго арганізаваць прасцей. Незалежна ад таго, ці пойдзе там хтосьці куды-небудзь ці не, ці будзе вылучаць «кандыдатаў» і г. д.
3. Усебеларускі народны з'езд. Паколькі «палатка» нелігітымная і легітымнай яна ў выніку гэтых псеўдавыбараў не стане, то патрэбна незалежная заканадаўчая альтэрнатыва. Хоць бы ў выглядзе Народнага парламента і альтэрнатыўнага ўрада – усё гэта павінен вырашыць Усебеларускі народны з'езд.

Вось гэтыя рэчы варта рабіць разам. А рабіць выгляд, што мы маем нейкую адзіную тактыку – бессэнсоўна, таму што яе няма. Проста няма! Адны хочуць і рыбку з'есці, і нос не замачыць: паўдзельнічаць у «выбарах» і зрабіць выгляд, што яны сумленныя і маральныя. А іншыя ясна і канкрэтна кажуць: мы выступаем за актыўны байкот.

# Баўсюк: людзі абыякавыя да «выбараў»

**Прэсавая служба аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» звярнулася да каардынатара аргкамітэта БХД па Гарадзенскай вобласці Міколы Баўсюка з просьбай выказаць ягонае стаўленне да байкоту ці ўдзелу ў выбарах у 2012 годзе.**

***– Чаму вы выступаеце за байкот парламенцкіх выбараў?***

– Выбараў у краіне няма, няма і парламента. Тое, што ў нас ёсць – гэта нельга назваць выбарамі і парламентам. З тых, хто будзе браць удзел у выбарах, улады будуць ствараць сістэмную псеўдаапазіцыю. Удзел у выбарах – гэта легітымізацыя дзейснага рэжыму і парламента. Гэтага нельга дапусціць.

***– Як да выбараў ставяцца прадстаўнікі іншых дэмакратычных партый і арганізацый вобласці? Якое стаўленне простых грамадзян?***

– Дэмакратычныя актывісты на Гарадзеншчыне да байкоту ставяцца па-рознаму: хтосьці за, хтосьці супраць. Грамадзяне ж з большага ставяцца абыякава.

***– Ці тлумачыце вы ім неабходнасць байкоту? Калі так, то як?***

– Мы ўсім кажам усё, як ёсць. Мы кажам пра адсутнасць выбараў і парламента. Калі хтосьці пойдзе балатавацца, то яны альбо засланыя ўладамі, альбо хочуць атрымаць нейкую карысць ад Еўрасаюза.

# Севярынец: агітваць і яднацца трэба не на «выбарах»

**Віцебская абласная каардынатарка аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Таццяна Севярынец абвяргае меркаванне, што ўдзел у «выбарах» дапаможа правесці агітацыю. Паводле яе словаў, камунікаваць з людзьмі трэба не толькі падчас выбараў, але ўвесь час.**

***– Як вы ставіцеся да парламенцкіх «выбараў»?***

Я выступаю за актыўны байкот выбараў у «палатку». Мы не прызнаем легітымным дзейсны парламент. Дык чаму мы павінны легітымізаваць яго зараз сваім удзелам у «выбарах»? Калі мы зараз будзем удзельнічаць у выбарах у новы парламент, значыць мы прызнаем легітымнасць папярэдняга. І гэта дзіўна, прычым не толькі для нас, нашых грамадзян, але і для іншых краін, якія таксама лічаць беларускі парламент нелігітымным.

Мая пазіцыя адназначная і яна супадае з пазіцыяй БХД, якая была зацверджана рашэннем Нацыянальнай Рады. Калі ўлады да 25 сакавіка не выконваюць шэраг нашых ультыматыўных ўмоваў, мы абвяшчаем актыўны байкот выбараў.

***– Але ж некаторыя лічаць, што ўдзел у «выбарах» дапаможа данесці сваю пазіцыю да простых людзей?***

Так, некаторыя заяўляюць, што ўдзел у «выбарах» дасць магчымасць для агітацыі, прапаганды і піяру. Але тым самым тыя, хто будзе ўдзельнічаць у «выбарах», будуць мабілізаваць людзей на



ўчасткі, падыгрываць рэжыму. Зняццё ж кандыдатаў за некалькі дзён да выбараў большасць людзей успрыме як падман.

Звычайным людзям нецікава палітыка, яны ў ёй не разбіраюцца. Яны разумеюць, што іх жыццё пагоршылася, што жыць стала горш, а ад дэпутатаў нічога не залежыць, бо краінай кіруе дыктатар. Ім неабходна тлумачыць, што, калі яны прыйдуць галасаваць, іхны голас, за што ці за каго б яны не прагаласавалі, не будзе падлічаны, што вынікі будуць падтасаваныя так, як гэта трэба Лукашэнку.

У мяне ёсць добры досвед удзелу ў выбарчых кампаніях і я ведаю, што ў нашай краіне галасы выбаршчыкаў нічога не вырашаюць. У 2008 годзе я сама брала ўдзел у выбарах у парламент. Тады за дзень да пачатку датэрміновага галасавання я зняла сваю кандытатуру. Дык людзі мяне вінавацілі ў тым, што я іх падставіла, падманула. Таму я кажу, што ў ніякім разе нельга балатавацца ў гэты парламент.

А агітаваць і весці прапаганду можна і зараз, без удзелу ў выбарах: праз улёткі, праз СМІ, камунікаваць з людзьмі, дапамагаць ім у вырашэнні іх праблем. У нас, дарэчы, ёсць цудоўная пляцоўка для гэтага – Рада Народных Дэпутатаў, у межах якой мы працуем з людзьмі ўвесь час.

***– Ці ёсць магчымасці супрацы БХД з тымі, хто выступае за ўдзел у выбарах?***

Я лічу, што мы павінны супрацоўнічаць з іншымі дэмакратычнымі сіламі, беручы ўдзел у працы выбарчых камісій, у назіранні. Мы павінны зафіксаваць колькасць людзей, якія рэальна прыйдуць на выбары, а не тыя лічбы, якія абвесцяць пасля ўлады.

# Кабанчук: удзел у выбарах – згода на гульню з шулерам



**Таісія Кабанчук, якая ўзначальвае магілёўскі абласны аргкамітэт Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, не бачыць сэнсу ў вылучэнні апазіцыяй кандыдатаў на будучых парламенцкіх выбарах. Паводле яе словаў, такога самага меркавання прытрымліваецца абсалютная большасць дэмакратычных актывістаў і простых жыхароў вобласці.**

***– Чаму вы выступаеце за байкот парламенцкіх «выбараў»?***

Я выступаю за актыўны байкот, бо ў турмах працягваюць заставацца палітвязні, якія патрапілі туды ў выніку такіх самых выбараў. Да таго ж без зменаў выбарчага заканадаўства, ніякага падліку галасоў не будзе.

Беручы ўдзел у «выбарах», мы зноў пагаджаемся гуляць з шулерам. А спадзявацца выйграць у яго – зусім несур’ёзна. Мы зноў будзем наступаць на старыя граблі. Які сэнс гуляць у гульні без правілаў? Удзельнічаць у «выбарах» – значыць легітымізаваць гэты рэжым. Займацца гэтым не хочацца.

***– Як да «выбараў» ставяцца прадстаўнікі іншых дэмакратычных партый і арганізацый вобласці?***

У нашай вобласці дэмакратычныя сілы таксама выступаюць за байкот. Так, у Бабруйску ўжо восем партый і арганізацый падпісалі пагадненне аб байкоце. Ідуць перамовы аб далучэнні да байкоту і ў Магілёве. Вусна там ўсе «за», але пісьмовага пагаднення пакуль няма.

***– А якое стаўленне да «выбараў» у простага насельніцтва?***

Жыхарам гораду мы тлумачым, што ў краіне няма выбараў, галасы не лічацца, а «перамагаюць» тыя, каго палічаць патрэбным улады. Яшчэ ніводзін з дэпутатаў ніколі не выступіў у абарону сваіх выбаршчыкаў. Ніхто з іх ні слова не сказаў, калі Беларусь за мінулы год стала самай беднай краінай у Еўропе.

Мы заклікаем людзей не ісці на выбарчыя ўчасткі, бо гэта не мае сэнсу. За 17 гадоў кіраўнікі выбарчых камісій так добра навучыліся фальсіфікаваць вынікі, што камар носу не падточыць.

Увогуле 80% простых грамадзян, з якімі мы размаўлялі, выступаюць за байкот і не збіраюцца ісці на «выбары». Яшчэ ў 2008 годзе, калі я балатавалася ў парламент, мы прыкладвалі шмат намаганняў, каб людзі паставілі за мяне свой подпіс. Людзі ўжо тады не разумелі, навошта мы ў гэтым удзельнічаем, калі выбараў няма. Але мы ўдзельнічалі і засталіся з носам. Больш гэтым займацца я не збіраюся.

# Клімовіч: ў рэгіёнах ніхто не хоча быць клоўнам

**Кіраўнік аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» па Гомельскай вобласці Юры Клімовіч лічыць, што галоўнай мэтай палітычнай кампаніі 2012 году павінна стаць дэлігітымізацыя рэжыму ў вачах простых грамадзян. На яго думку, дасягнуць гэта атрымаецца толькі праз байкот «выбараў».**

***– Што лепш рабіць дэмакратычным сілам: ісці на выбары ці байкатаваць іх?***

– Толькі актыўны байкот. У ніякім разе нельга вылучацца ў якасці кандыдатаў, бо тым самым адбудзецца мабілізацыя электарату. Недапушчальна заклікаць людзей на выбары, мабілізаваць іх на выбарчыя ўчасткі. Разам з тым я лічу, што на стадыі збору подпісаў можна скарыстацца тымі магчымасцямі, якія яна дае, для агітацыі, раздачы ўлётак і гэтак далей.

Пакуль жа самае галоўнае, што трэба рабіць – інфармаваць насельніцтва пра палітвязняў, бо вельмі нязначная частка беларусаў ведае, што яны ў Беларусі ёсць. І ўжо бліжэй да «выбараў» трэба пачынаць агітацыю. У дзень жа галасавання мы павінны прысутнічаць у якасці назіральнікаў, каб засведчыць, колькі людзей насамрэч прыйдзе на ўчасткі, каб паказаць грамадзянам, што рэжым – нелігітымны. У гэтым наша галоўная задача і да яе мы павінны імкнуцца. Калі мы будзем ставіць некалькі задачаў – агітацыю, піяр – то тады мы не здолеем чагосьці дасягнуць.

***– А як да выбараў ставяцца гомельскія дэмакратычныя сілы?***

– Большасць лічыць, што ісці на «выбары» няправільна. Дый простыя грамадзяне ўдзелу ў «выбарах» не зразумеюць. Разам з тым лідары некаторых партый з Менска заклікаюць сваіх актывістаў да ўдзелу, але я сумняюся, што яны здолеюць закрыць ўсе выбарчыя акругі. Тут, на месцы, мала хто хоча выступаць у ролі клоўна і ісці на «выбары».



# Хоміч: удзел у выбарах пры наяўнасці палітвязняў – амаральны

**Каардынатарка Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі па Менскай вобласці Марына Хоміч выступіла супраць удзелу апазіцыі ў парламенцкіх выбарах, пакуль у турмах знаходзяцца палітвязні.**

«Хіба ж можна ўдзельнічаць у выбарах, калі ў турмах знаходзяцца палітвязні? Лезці ў балатаванне, пераступіўшы праз зняволеных, значыць ісці амаральным шляхам. Шлях у «палатку» – гэта шлях у падтрымку рэжыму, шлях на супрацоўніцтва з ім», – адзначыла яна.

Сустаршыня МХД выступіла таксама супраць спробаў раскалоць дэмакратычны рух. «Не дамо рэжыму дасягнуць гэтага. Будзьма моцнымі і еднымі! Жыве Беларусь!», – падкрэсліла Марына Хоміч.



# Шурхай: Берасцейская кааліцыя за байкот

**Берасцейскі абласны каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Зміцер Шурхай лічыць недапушчальным удзел у «парламенцкіх выбарах». Паводле яго словаў, простыя грамадзяне нават не збіраюцца ісці галасаваць.**

***– Чаму вы выступаеце за байкот парламенцкіх выбараў?***

Я за байкот гэтых «парламенцкіх выбараў»! Галоўная прычына – улада ў краіне пасля «прэзідэнцкіх выбараў–2010» нелігітымная, так як большасцю нашых грамадзян і міжнароднай супольнасцю тыя выбары не прызнаныя. Усю ўладу ў краіне – заканадаўчую, выканаўчую і судовую – ажыццяўляе адзін чалавек, які ўзурпіраваў яе – Лукашэнка А.Г.

Таму «парламент» не з’яўляецца прадстаўнічым і заканадаўчым органам, яго існаванне носіць толькі фіктыўны характар, і таму няма ніякага сэнсу ў гэтых выбарах. Удзел у гэтым фарсе – гэта толькі легітымізацыя рэжыму. Тым больш у турмах да гэтай пары ўтрымліваюцца палітзняволеныя, іх жыццю пагражае небяспека, і як мінімум амаральна будзе



выглядаць удзел дэмакратычных сіл у выбарах пры такіх умовах.

***– Як да «выбараў» ставяцца прадстаўнікі іншых дэмакратычных партый і арганізацый вобласці?***

Як было ўжо заяўлена, Берасцейская Дэмакратычная Кааліцыя «Спадчына», якая была створана ў свой час па ініцыятыве БХД, на сваім пасяджанні адзінагалосна выказалася за байкот. Подпісы пад агульнай заявай паставілі абласныя кіраўнікі БХД, БСДП (Народная Грамада), «Еўрапейскай Беларусі», «Маладога Фронта» і інш.

Зараз праводзім сустрэчы і перамовы з астатнімі палітычнымі і грамадскімі суб’ектамі Берасцейшчыны аб далучэнні іх да байкоту. Пакуль да нас прымкнулі аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларускі Рух» і прафсаюз РЭП.

***– А якое стаўленне ў простага насельніцтва?***

Пры размовах з простымі грамадзянамі становіцца зразумела, што ні на якія выбары пры рэжыме Лукашэнкі беларускі народ, звычайныя грамадзяне, ужо не пойдуць. Яны разумеюць, што гэта звычайны падман і фальсіфікацыя.

Тым не менш у сваю чаргу мы будзем даносіць да грамадзян інфармацыю пра неабходнасць байкота праз масавы распаўсюд улётак, бо іншых магчымасцяў інфармавання пакуль няма.

# Нацыянальная Рада БХД: улады парушаюць фундаментальныя правы грамадзян




**Нацыянальная Рада ствараемай Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» на сваім паседжанні 21 студзеня прыняла заяву супраць праследу ўладамі актывістаў БХД:**

«Мы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, абураныя масавымі рэпрэсіямі, якія разгарнулі беларускія ўлады на заснавальнікаў Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, у прыватнасці на Алега Аксёнава, намесніка кіраўніка аргкамітэту БХД па Магілёўскай вобласці, якога незаконна звальняюць з працы, а таксама ў дачыненні іншых сябраў аргкамітэту.

Мы канстатуем, што гэтыя факты парушаюць фундаментальныя правы грамадзян Беларусі на свабаду аб'яднанняў і палітычных партый.

Мы патрабуем ад беларускіх уладаў неадкладна спыніць рэпрэсіі. Мы заклікаем беларускае грамадства і міжнародную супольнасць да салідарнасці з усімі рэпрасаванымі».

# Мінюст прыпыніў рэгістрацыю Партыі БХД

**На адрас Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі 11 студзеня прыйшоў ліст з Міністэрства юстыцыі, у якім Мінюст паведаміў пра прыпыненне на месяц працэсу рэгістрацыі Партыі БХД.**

13 студзеня на прэс-канферэнцыі адказны сакратар па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі заявіў, што аргкамітэт па стварэнні Партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» лічыць незаконным рашэнне Міністэрства юстыцыі аб прыпыненні працэсу рэгістрацыі партыі.

«Для рэгістрацыі партыі існуе пералік дакументаў, які жорстка рэгламентаваны, і ўсе дакументы былі прадастаўлены ў Мінюст 20 снежня 2011 г. Але Мінюст запатрабаваў чатыры дакументы, якія ніяк нерэгламентаваны заканадаўствам, і падаваць іх мы абавязаны не былі. Тым не менш, прадоўжыў ён, БХД падала гэтыя дакументы Мінюсту. 6 студзеня Мінюст робіць выгляд, што гэтыя дакументы мы не далі, і выносіць рашэнне аб прыпыненні рэгістрацыі партыі. Афіцыйны ліст аб гэтым нам прыходзіць ўвечары 11 студзеня. Ужо 12 студзеня мы накіравалі афіцыйны пратэст у Мінюст на такое рашэнне» – адзначыў на прэс-канферэнцыі адказны сакратар па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі.




19 снежня са спасылкай на дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва БелТА была агучана навіна – мінюст адмовіў у рэгістрацыі партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. Паведамлялася, што пра гэта журналістам заявіў міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі, які прымаў удзел у выніковай калегіі Міністэрства юстыцыі. Фармулёка была звычайнай: «У пададзеных для рэгістрацыі дакументах БХД быў выяўлены шэраг парушэнняў. У прыватнасці, парушэнні былі ўсталяваныя ва ўстаноўчых дакументах, спісах заснавальнікаў партыі. У цэлым яны былі афармленыя неналежным чынам».

Аднак 20 студзеня Міністэрства юстыцыі Беларусі выступіла з абвяржэннем інфармацыі пра нерэгістрацыю Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».

«У інтэрв'ю Міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь Сліжэўскага А.Л. прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі ад 19.01.2012 гаворка ішла аб папярэдняй адмове ў дзяржаўнай рэгістрацыі ПБХД. У цяперашні час у дачыненні да ПБХД дзяржаўная рэгістрацыя прыпыненая. Канчатковае рашэнне па заяве ініцыятараў стварэння ПБХД будзе прынята ў адпаведнасці з заканадаўствам», – адзначылі ў Мінюсце.

На дадзенны момант на афіцыйны пратэст БХД адказу з Мінюсту не паступала і дзейнічае рашэнне аб прыпыненні працэсу рэгістрацыі партыі .

# У дзень Ненароджанага дзіцяці Моладзь БХД правяла акцыю супраць абортаў

**Моладзь БХД 11 студзеня ў дзень Ненароджанага дзіцяці прыняла удзел у кампаніі супраць абортаў. Маладыя людзі наведалі жаночыя кансультацыі па вуліцы Кульман 22, праспект Незалежнасці 64, дзе звярнуліся да цяжарных жанчын з улёткамі «За сямейныя каштоўнасці», а таксама да родных і блізкіх, якія наведвалі жанчын.**

Таксама ўлёткі супраць абортаў былі раздадзеныя на вуліцах Мінска, дзе маладых хлапцоў і дзяўчат запрашалі далучацца да кампаніі. Такім чынам моладзь БХД нагадала пра «Дзень ненароджанаг дзіцяці»і выступіла супраць абортаў.

«Многія маладыя людзі, з якімі мы размаўлялі, былі супраць абортаў асабіста. Некаторыя выказвалі думку, што трэба не проста нагадваць пра гэтую праблему, але імкнуцца выправіць корань яе: пазбаўляцца разбэшчанасці і безадказнасці ў стасунках паміж людзьмі. Дзіця мусіць і павінна нараджацца ў сям'і, а не па-за яе межамі. Такога



ж меркавання былі студэнты БНТУ і Мастацкай акадэміі, да якіх мы падыходзілі», – распавёў у інтэвью прэс-службе БХД рэгіянальны каардынатар МХД Ігар Лабкоў.

# Салігорскія ўлады забаранілі мітынг у абарону хрысціянскіх каштоўнасцяў

**Мітынг у абарону хрысціянскіх каштоўнасцяў у Салігорску забаранілі, але салігорцы падалі заяўкі на правядзенне новых масавых мерапрыемстваў.**

Салігорскі райвыканкам не даў дазволу на правядзенне мітынгу ў падтрымку хрысціянскіх каштоўнасцяў на стадыёне «Будаўнік». Сваю забарону чыноўнікі абгрунтавалі



неадпаведнасцю пададзенай заявы патрабаванням 2-га артыкула Закона «Аб масавых мерапрыемствах», а падставай для адмовы пазначана рашэнне Салігорскага выканкаму №3817 ад 30.12.2011. Што дакладна не адпавядае заканадаўству -- у лісце не тлумачыцца, як і не падаецца змест нідзе не апублікаванага рашэння выканкама.

Заяўнік мітынгу, сябар БХД Уладзімір Шыла лічыць гэтае рашэнне неправавым і палітычна матываваным.

# У Гомелі прайшла акцыя супраць алкагалізацыі насельніцтва




**У Гомелі мясцовыя грамадскія актывісты правялі акцыю супраць спойвання насельніцтва пад назвай «Хопіць піць – трэба жыць!». У прыватнасці, яны распаўсюдзілі па прыпынках, слупах і сценах дамоў у цэнтры гораду налепкі супраць алкагалізацыі грамадзян.**

«Мяркуючы па ўсім, улады зацікаўленыя ў спойванні насельніцтва. Гэта самым непасэдным чынам адбіваецца на людзях. Яны абсалютна пасіўныя, незацікаўленыя ў заўтрашнім дні і будучыні сваіх дзяцей», – адзначыў удзельнік акцыі, сябар Нацыянальнай Рады БХД Зміцер Карашкоў.

# Слонімскія актывісты правялі акцыю ў падтрымку палітвязняў

**На працягу гэтага тыдня прадстаўнікі Слонімскага згуртавання дэмакратычных сілаў, у якое таксама ўваходзяць прадстаўнікі БХД, праводзяць інфармацыйную кампанію сярод мясцовага насельніцтва аб тым, што ў беларускіх турмах дагэтуль утрымліваюцца палітычныя вязні.**

«У розных грамадскіх месцах і на ўваходах у пад'езды шматпавярховых дамоў, былі расклееныя некалькі сотняў улётак з партрэтамі шэрагу палітвязняў і заклікам «Свабоду палітвязням!», – распавёў мясцовы актывіст БХД Алесь Масюк.

Інфармацыйная кампанія з патрабаваннем свабоды палітвязням будзе працягвацца да тога часу, пакуль не выпусцяць усіх палітвязняў.

# Народныя дэпутаты ад БХД за два гады рэалізавалі больш за 100 сацыяльных праектаў

**21 студзеня адбылася сустрэча па выніках кампаніі БХД «Рада Народных Дэпутатаў». Падчас сустрэчы сябры БХД, якія на працягу мінулага году, праявілі найбольшую актыўнасць былі ўганараваныя сувенірнымі кубкамі з сімволікай БХД.**




Агулам за два апошнія гады з моманту старту кампаніі Рада Народных Дэпутатаў рэгіянальнымі актывістамі было рэалізавана больш за 100 сацыяльных праектаў. Гэтак, у некаторых рэгіёнах было арганізаванае вулічнае асвятленне, праведзены рамонт дарог і жыллёвага фонду, рабіліся спробы вяртання гарадскім вуліцам спрадвечных назваў, аховы прыроды і захавання гісторыка-культурнай спадчыны.

- Я лічу, што гэта – перспектыва. Лукашэнка нас душыць, Лукашэнка нас дыскрэдытуе па тэлебачанні. У нас няма іншага шляху як дастукацца да сэрца людзей, як пераканаць іх, што мы альтэрнатыва ўладзе, што мы народная партыя, народны рух хрысціянска-дэмакратычны, які змагаецца за інтарэсы простых людзей. Толькі праз Раду Народных Дэпутатаў, толькі праз абарону людзей у іх надзённых патрэбах, у тых самых вострых, балючых пытаннях, з якімі яны сустракаюцца ў сваім прыватным жыцці, – адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

Рада народных дэпутатаў была створана ў 2010 годзе пасля фальсіфікацыі рэгіянальных выбараў. Дадзеная сустрэча толькі падвяла толькі вынікі кампаніі за апошні год. Праца актывістаў па вырашэнні рэгіянальных праблем працягваецца.

# Народны дэпутат БХД змагаецца за чыстае паветра ў Паставах

**Актывіст аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Уладзімір Казлоўскі распачаў у Паставах збор подпісаў супраць будаўнітва ў горадзе ля малаказавода ачышчальных пабудоваў.**

Паводле яго словаў, пасля пачатку будаўніцтва ў раёне малаказавода стала немагчыма знаходзіцца ад вялікага смуроду, які ідзе ад будоўлі. Уладзімір Казлоўскі паведаміў, што мясцовыя жыхары вельмі незадаволеныя гэтым. «Яны цяпер не могуць адчыніць ні вакна, ні форткі ў дамах, бо пасля немагчыма знаходзіцца ў памяшканні», – адзначыў ён.

Таксама пры моцным ветры смурод з будоўлі даходзіць нават да цэнтра Паставаў.



# У Берасці пачынаецца збор подпісаў за адстаўку Гарсавета дэпутатаў

**22 снежня ў Берасцейскі гарадскі савет дэпутатаў накіравана заява групы выбаршчыкаў аб стварэнні ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў для ўзбуджэння працэдуры датэрміновага спынення паўнамоцтваў Брэсцкага гарадского савета дэпутатаў у сувязі з сістэматычным і грубым парушэннем Саветам патрабаванняў заканадаўства. Аб гэтым распавёў сябар Нацыянальнай Рады БХД Фёдар Петрусевіч.**

Паводле яго словаў, напрацягу трох гадоў кіраўніцтва Берасцейскага гарадского савета аказвае адкрытае процідзеянне па аднаўленні парушаных правоў і ахоўваемых законам інтарэсаў грамадзян у сувязі з незаконным размяшчэннем выпраменьвальніка антэны МТС у непасрэднай блізкасці ад вокнаў іх жылых дамоў.

У сувязі з бяздзейнасцю, адкрытым невыкананнем мясцовымі органамі ўлады і іншымі ўпаўнаважанымі органамі дзяржаўнага кіравання патрабаванняў заканадаўства па ажыццяўленні кантрольных функцый у галіне долевага будаўніцтва жылля, у Берасці здзейснены масавы падман грамадзян – дольшчыкаў, у выніку якога грамадзянам нанесены матэрыяльны ўрон у асабліва буйным памеры .

Не прымаюцца ніякія дзейсныя меры па забеспячэнні пазоваў падманутых дольшчыкаў да забудоўшчыкаў і людзі ўжо перасталі верыць ва ўсялякую магчымасць выканання рашэнняў судоў.

У выніку карупцыйных правапарушэнняў з боку названых органаў у бюджэт не выплачаны падаткі і зборы ў асабліва буйным памеры.

«На думку чыноўнікаў, чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі не з’яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы.

Шматузроўневая, адкрытая карупцыя ў органах улады ставіць сваёй мэтай фарміраванне ў грамадзянскай супольнасці пачуццяў безвыходнасці і бессэнсоўнасці барацьбы за аднаўленне сваіх канстытуцыйных правоў і свабод», – адзначыў Фёдар Петрусевіч.

# Глыбоцкі райвыканкам адказаў народнаму дэпутату ад БХД

**Старшыня райвыканкама Алег Морхат заявіў, што гэта кампетэнцыя раённага савета дэпутатаў.**

Таксама ён адзначыў, што такія пытанні вырашаюцца на мясцовых рэферэндумах. Пра гэта чыноўнік паведаміў у лісце на імя глыбачаніна Змітра Лупача.

Нагадаем, што група глыбачан прапаноўвала даць іншыя назвы вуліцам з савецкімі найменнямі. У прыватнасці, прапаноўвалася перайменаваць частку вуліцы Леніна ў Замкавую, другую частку гэтай вуліцы назваць Віленскай — бо гэта гістарычныя назвы гэтых вуліц. Вуліцу Маскоўскую, якая вядзе ў бок беларускай сталіцы, прапаноўвалі назваць Мінскай. Вуліцу Савецкую — Беразвецкай, бо яна калісьці злучала Глыбокае з Беразвеччам, паселішчам, якое зараз знаходзіцца ў гарадской рысе.

Адказ чыноўніка Лупач лічыць звычайнай адпіскай і сведчаннем таго, што ўлада проста не хоча займацца перайменаваннем вуліцаў. На яго думку, нішто не перашкаджала чыноўнікам пераслаць зварот глыбачан у райсавет, бо знаходзяцца яны ў адным будынку.



Тым не менш, глыбачане не збіраюцца спыняць свае высілкі па перайменаванні вуліц з савецкімі назвамі.

# Народны дэпутат змагаецца за паляпшэнне раскладу руху грамадскага транспарту

**Народны дэпутат, абласны каардынатар БХД Мікола Баўсюк і гарадзенскія актывісты аргкамітэта сабралі 103 подпісы за паляпшэнне транспартнага руху паміж Горадняй і вёскай Капцёўкай, што знаходзіцца за 10 км ад гораду.**

Ініцыятары збору сцвярджаюць, што напярэдадні Новага году подпісы былі перададзеныя ў аўтобусны парк Горадні. З дакументаў былі зроблены ксеракопіі, каб у выпадку адмовы з аўтобуснага парку можна



было звярнуцца ў райвыканкам ці ў іншыя вышэйшыя ўстановы.

Праблема заключаецца ў тым, што ўлады знялі адзін з аўтобусных маршрутаў, які дзейнічаў паміж Горадняй і Капцёўкай. Зараз перапынак паміж рэйсамі аўтобусаў дасягае чатырох гадзінаў. Шмат вяскоўцаў працуе ў горадзе, а гараджанаў – у вёсцы, таму даўгія перапынкі спрычыняюцца да вялікай незадаволенасці працоўных.

У сваю чаргу ў аўтобусным парку паабяцалі даць адказ на калектыўны ліст грамадзянаў на працягу двух тыдняў.

# Народны дэпутат з Ашмяншчыны змагаецца за правы сялянаў



**Народны дэпутат з вёскі Міхайлоўшчына ў Ашмянскім раёне, сябар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Павал Кулак бароніць правы сялянаў у дачыненнях з мясцовымі ўладамі.**

Гэтак, ён звяртаецца ў сельсавет, каб сялянам вылучылі дадатковую пашу для выпасу кароваў, бо, паводле закона, на кожную сялянскую карову павінна прыходзіцца 0,8 га, але ў Міхайлоўшчыне гэты памер у 3-4 разы меншы.

Таксама Павал Кулак адзначыў, што спрабуе дамагчыся ад мясцовых уладаў, каб быў унармаваны прыём у сялянаў малака. Паводле яго словаў, зборшчыкі малака часцяком робяць прыпіскі, памяншаючы тлушч у малацэ чужых кароваў і павялічваючы яго ў малацэ сваіх. У выніку сяляне не далічваюцца значных сумаў грошаў.

Апроч таго актывіст распавёў, што змагаецца з тым, што ўвосень у жыхароў Міхйлоўшчыны не хочуць прымаць яблыкі.

За сваю актыўнасць Павал Кулак неаднаразова сутыкаўся з ціскам з боку райвыканкама і сельсавета, а два гады таму ў яго перасталі браць малако, з-за чаго давялося прадаць адну з кароваў.

# БХД абвесціла 2012 годам памяці Адама Станкевіч і Вінцэнта Гадлеўскага



**Нацыянальная Рада БХД 21 студзеня абвесціла ў межах БХД 2012 год годам памяці айцоў – заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.**

На пасяджэнні Нацыянальнай Рады быў створаны аргкамітэт ушанавання іх памяці, які плануе з прыцягненнем шырокай беларускай грамадскасці ініцыяваць і правесці цягам гэтага году ў Менску і іншых мясцінах Беларусі, а таксама ў Вільні і Варшаве, шматлікія мемарыяльныя мерапрыемствы.

У 2012 годзе споўнілася 120 год з дня нараджэння заснавальніка БХД, грамадскага, палітычнага і рэлігійнага дзеяча, гісторыка, пісьменніка, выдаўца, пакутніка ГУЛАГу, ксяндза Адама Станкевіча (6.01.1892 – 29.11.1949). Таксама ў канцы гэтага году споўніцца 70 год з дня пакутніцкай смерці ад рук гітлераўскіх карнікаў іншага айца-заснавальніка БХД, грамадскага і палітычнага лідара, перакладчыка Новага Запавету на беларускую мову, ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (16.11.1898 – 24.12.1942). Сябры БХД вырашылі належным чынам ушанаваць памяць нашых выбітных папярэднікаў.

У прыватнасці, напрацягу 2012 года прапаноўваецца правесці наступныя мерапрыемствы:

– Канферэнцыі, прысвечаныя Адаму Станкевічу (канец траўня 2012 г.) і Вінцэнту Гадлеўскаму (канец снежня 2012 г.);

– Экскурсіі па месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага;

– Стварыць мультымедыя-прэзэнтацыі і ініцыяваць здымкі відэа фільмаў, прысвечаных жыццю, дзейнасці і спадчыне нашых выбітных папярэднікаў;

– Праводзіць цягам года прысвечаныя Станкевічу і Гадлеўскаму лекцыі, сустрэчы і канцэрты ў Менску і ў іншых месцах Беларусі, найперш звязаных з іх жыццём і дзейнасцю;

– Разам з беларускімі мастакамі правесці мастацкія пленэры, ініцыяваць стварэнне і ўсталяванне памятных знакаў, прысвечаных Адаму Станкевічу і Вінцэнту Гадлеўскаму;

– Ініцыяваць кампанію па пераназванні вуліцаў, якія носяць імёны камуністычных катаў, у вуліцы Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага ў Менску, Крэве, Ашмянах, Слоніме і іншых мястэчках;

– Правесці інтэрнэт-кампанію ў сацыяльных сетках па запрашэнні на ўсе мерапрыемствы года памяці Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага;

– Ініцыяваць і замаўляць малітвы і імшы ў касцёлах за Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

БХД заклікае ўсіх неабыякавых людзей далучацца да працы аргкамітэту па ўшанаванні памяці Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага. Па ўсіх пытаннях на гэты конт можна звяртацца па тэлефоне 8-029-571-26-11 (МТС).

# Кіраўніцтва і моладзь БХД ушанавала памяць Адама Станкевіча

**6 студзеня сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі і адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі 6 студзеня прыйшлі да Архікатэдральнага касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Менску, каб ушанаваць памяць аднаго з заснавальнікаў БХД ксяндза Адама Станкевіча, 120-годдзе якога сёння святкуецца ў Беларусі.**



Разам з імі ўдзел у акцыі ўзялі жонка Віталя Рымашэўскага Наста і дачка Ева. Яны ўсклалі кветкі да крыжа перад касцёлам, а пасля перадалі ў курыю зварот да беларускіх біскупаў з просьбай ушанаваць памяць дзеяча.

У той жа дзень, маладыя хрысціянскія дэмакраты наведалі крэўскі касцёл. Моладзь усклала кветкі і запаліла свечкі каля крыжа, а таксама памалілася ў памяць знакамітага папярэдніка і за годную будучыню для Беларусі.

# АБУДЖЭНЬНЕ

**Абуджэньне як прынцып заўжды прысутнічала ў беларускай нацыянальнай ідэі. Вісела ў паветры, скразіла ў паэтычных радках, таілася ў чаканьні. Калі ж народ, што сьпіць, нібы зерне ў ральлі, нарэшце прачнецца, ачомаецца ад забыцьця?!**



Дрымотны, такі дрымучы й дрыготкі стоены стан нацыі, такая характэрная для беларусаў традыцыйная «сьпячка» – вось яно, нашае пракляцьце. «А я лягу-прылягу...» Беларускі сон нараджае пачвараў, якія зьнікаюць толькі з абуджэньнем.

«Абудзіўшыся, буду насычацца вобразам Тваім» (Псальмы, 16:15)

Абуджэньне – характэрная хрысьціянская мэтафара. Абуджэньнем называецца ўсенароднае духовае узрушэньне, адкрыцьцё Бога цэлымі краінамі, нараджэньне звыш грамадзтваў і пакаленьняў.

Абуджэньне – гэта духовая фээрыя. Пасьля безнадзейнае комы народ падымаецца, ідзе да Хрыста, узгадвае словы зь Бібліі, каецца ў грахах, пачынае маліцца ня толькі раз на год і ня толькі ў царкве – дзесяткі разоў на дзень, і паўсюль, натхнёна славіць Творцу! Уся нацыя раптам напаўняецца звышнатуральнай сьвядомасьцю веры й любові, расплюшчвае вочы для нябёснага сьвятла, ацаляецца, і пачынае дыхаць Духам Сьвятым.

Абуджэньне – гэта ўваскрашэньне душаў у масавых маштабах.

Хрысьціянскія абуджэньні сфармавалі беларусаў як нацыю і Беларусь як краіну. Духовае абуджэньне, гістарычна імгненнае, было першаштуршком для кожнага нацыянальнага Адраджэньня, і мабілізоўвала сілу беларуса на інэрцыю ў дзесяцігодзьдзі. Хрысьціянскі выбух знутры выклікаў пасіянарны ўздым народу, імклівае культуровае, гаспадарчае, палітычнае разьвіцьцё й місіянерскую экспансію.

Беларусь абуджалася на сьвітаньні новых эпохаў гэтак жа, як кожны з нас прачынаецца штораніцы. Сьвятло. Удых, паветра, думкі. Успомніць усё. І вось, з глыбіняў забыцьця імкліва расьце, напаўняе душу асэнсаваньне шляху, ісьціны й жыцьця.

Так Беларусь прымала хрысьціянства напрыканцы X стагодзьдзя – амаль адначасова з Усходу й Захаду. Калі ў сьвеце каталіцтва й праваслаўе разьдзяляліся – у Беларусі ў той жа час яны сышліся дзеля прапаведваньня Адзінага Ісуса Хрыста. Спарадзілі першае абуджэньне, а зь ім – пачатак гісторыі, праўобраз дзяржавы ў Полацкім княстве, беларускі храм і беларускую кнігу на бліжэйшыя 200 гадоў.

Так Беларусь натхняла і прасьвятляла ўсходніх славянаў з другім абуджэньнем – у сярэдзіне XII ст. Эўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клім Смаляціч з адасобленых куткоў Беларусі суладна заклікалі народы да пакаяньня й выпаўненьня волі Божае. Абуджаная Белая Русь XII ст. стала асноваю для яднаньня цягам трох наступных стагодзьдзяў.

Так Беларусь рабілася гарачым, адкрытым Богу сэрцам Эўропы ў XVI стагодзьдзі, з Рэфармацыяй, вялікім перасяленьнем сюды габрэйскае дыяспары й разгарам Залатога веку. Узрушаны пропаведзьдзю, натхнёны малітвай і ўмацаваны Законам Божым народ ператвараўся ў нацыю талеранцыі, нацыю Скарыны, нацыю Статуту. Хрысьціянская Беларусь XVI ст. рабілася гістарычным эпіцэнтрам духовай, культуровай, адукацыйнай місіі для Расеі, Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі й Ізраіля на цэлых 400 гадоў наперад.

І напачатку, і напрыканцы XX ст. Беларусь спрабавала прачнуцца: быў і рух беларускіх ксяндзоў ды шчырых вернікаў нашаніўскага часу, і рэлігійны рэнэсанс пасьля развалу 70-гадовае бязбожнае імпэрыі СССР, і легендарны дэвіз Пазьняка: «Не кілбасы мусім шукаць, а Бога!...»

...Сучасны стан нацыі – гэта той дзіўны раньні час, калі сон, нядаўна яшчэ глухі й глыбокі, ужо робіцца паверхневым, чуйным, трывожным... Калі так хочацца паваліцца назад, у цёплую цемру, нягледзячы на буднік, сьвітанак і шум новага дня... І цела змагаецца з позвамі абуджэньня, і душа пакутуе, але дух ужо рвецца да сьвятла, да яснасьці, да дзеяньня.

Сёньня, праз 1000 гадоў пасьля першага абуджэньня, за мяжою 2000-га году ад нараджэньня Ісуса Хрыста на нашых вачох беларуская нацыя абуджаецца для новае эпохі – эры інфармацыйнае прасторы, глябалізацыі й духовых узрушэньняў у маштабе ўсяго чалавецтва.

**Пара ўставаць, ты чуеш.**
**Час Абуджэньня!**

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# У Менску прайшоў круглы стол па пытанні вызвалення палітвязняў






**19 студзеня ў Менску прайшоў круглы стол па пытанні вызвалення палітычных вязняў. Вынікам гэтага круглага стала, было стварэнне каардынацыйнай групы «За Волю».**

Для вызвалення ўсіх беларускіх палітвязняў еўрапейскія краіны павінны ажыццяўляць эканамічны і візавы ціск на афіцыйны Мінск. У гэтым перакананы палітыкі і родныя асуджаных, што прынялі ўдзел у круглым сталe па іх вызваленні.

Прадстаўнікі грамадскасці ўпэўнены: міжнародная супольнасць – ключавы палітычны суб'ект, які можа прымусіць беларускія ўлады аднавіць законнасць у краіне.

Удзельнікі круглага стала па пытанні вызвалення палітвязняў звярнуліся таксама да міжнародных і беларускіх праваабарончых арганізацый з просьбай даць прававую ацэнку крымінальных спраў супраць Аляксандра Крутога і Сяргея Каваленкі. Прызнанне гэтых людзей палітычнымі вязнямі, на думку прадстаўнікоў грамадскасці, стане першым крокам на шляху іх хутчэйшага вызвалення.

Тым часам у самой Беларусі, па словах экс-кандыдата ў прэзідэнты на мінулых выбарах Віталя Рымашэўскага, прадстаўнікі грамадскасці і родныя асуджаных ад сённяшняга дня распачнуць шырокую кампанію інфармавання насельніцтва па праблеме палітычных вязняў.

– Я лічу, што нам варта менавіта зараз правесці супольную інфармацыйную кампанію пра палітзняволеных. Гэта адзінае, чаго не было зроблена разам. БХД і іншыя палітычныя арганізацыі, партыі рабілі выпуск адмысловых дыскаў, бюлетэняў. Але сапраўды нацыянальнай кампаніі не было. Каб выказваліся пра палітзняволеных сваякі, каб мы падымалі тэмы, актуальныя для тых людзей, якія зараз знаходзяцца за кратамі, і каб перадусім думалі пра іх вызваленне.

Кожную сераду а 16-й гадзіне ў Менску па адрасе Чарнышэўскага 3-39 адбываюцца чарговыя сустрэчы каардынацыйнай групы «За Волю». Запрашаем прыняць удзел усіх зацікаўленных людзей.



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 20 лютага 2012 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.